# НІВА

V ГОД ВЫДАННЯ № 8 (208)

21 ЛЮТЫ 1960 г.

БЕЛАСТОК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Цана 60 гр. Cena 60 gr.

# ПОСПЕХАЎ ВАМ, ТАВАРЫШЫ ДЭЛЕГАТЫ

20 і 21 лютага будзе праходзіць у Беластоку VIII ваяводская канферэнцыя Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі.

Канферэнцыя ацэніць дагэтуляшнюю працу партыйнай арганізацыі Беласточчыны, яе кіруючую ролю ў эканамічным і палітычным жыцці ваяводства, а таксама выпрацуе план і метады далейшага ўсебаковага развіцця Беласточчыны.

З кожным годам шырокія слаі нашага грамадства штораз большую ўвагу ўдзяляюць партыйным канферэнцыям.

І гэта зусім не выпадкова. Людзі разумеюць, што перамены, якія адбываюцца ў іх штодзённым, не заўсёды яшчэ лёгкім жыцці, пастаянны рост добрабыту ўсяго грамадства, адбываюцца пад кіраўніцтвам нашай партыі.

Хопіць паглядзець на тое, што зроблена ў нас за гады народнай улады. Хопіць параўнаць жыццё колішняе, зрэшты, не так далёкае, 8—10 гадоў таму назад, з нашым сучасным жыццём. Якія ж велізарныя перамены!

Калі браць пад увагу жыццё нашай беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне, дык гэтыя перамены будуць непараўнальна больш відавочнымі.

Каб гэтыя ўсе перамены маглі здзейсніцца, патрэбны былі велізарныя намаганні ўсяго насельніцтва Беласточчыны. Беларусы, пражываючыя на Беласточчыне, супольна з усім насельніцтвам, таксама не шкадавалі сваіх сіл у пабудове новага жыцця.

Але ва ўсіх гэтых намаганнях неабходны быў добры кіраўнік і арганізатар. Такім арганізатарам і кіраўніком усіх пачынанняў у галіне гаспадарчага, палітычнага і культурнага развіцця ваяводства з'яўляецца нашая партыйная арганізацыя.

І таму насельніцтва Беласточчыны, а ў яго ліку і нашая нацыянальная меншасць, удзяляе шмат увагі партыйнай канферэнцыі.

Пастановы, якія будуць прыняты партыйнай канферэнцыяй будзе рэалізаваць і нашае Беларускае грамадска - культурнае таварыства. А трэба сказаць, што нам трэба папрацаваць яшчэ нямала, каб, выконваючы рашэнні партыі, больш актыўна садзейнічаць усяму таму, што выцягвае нашыя вёскі з існуючай яшчэ культурнай і гаспадарчай адсталасці.

І таму, мы з вялікай увагай будзем вывучаць партыйныя пастановы, якія будуць прыняты ваяводскай канферэнцыяй і з поўнай адданасцю справе сацыялістычнага будаўніцтва будзем ажыццяўляць іх сваёй дзейнасцю.

Поспехаў Вам, таварышы дэлегаты! Як найлепшых вынікаў у час працы VIII ваяводскай партыйнай канферэнцыі!



22 лютага г. г. мінае 150 год з дня нараджэння геніяльнага польскага кампазітара Фрыдэрыка Шапэна.

На здымку помнік Шапэну ў Варшаве. На стар. 3 чытайце «Фрыдэрык Шапэн».

ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ДЫСКУСІЯ

# ВАКОЛ ПРАБЛЕМАЎ ПРАЦЫ НАВУКОВАГА ГУРТКА

Вельмі добра, што на старонках «Нівы» разгарнулася перадз'ездаўская дыскусія. Яна пазнаёміць шырокі круг чытачоў з працай Галоўнага Праўлення нашага Таварыства за прайшоўшы час і ўскрые яе недахопы. Нядрэнна было б, каб кожны член Прэзідыума ГП прыняў у ёй удзел і крытычна ацаніў адрэзак працы, за які быў адказны. Пабочнаму чытачу ўсё ж менш вядомы праблемы і дасягненні культурна - асветнай дзейнасці Таварыства.

У гэтым артыкуле хочацца крануць пытанне аб працы навуковага гуртка.

Зараджэнне думкі аб стварэнні навуковага гуртка было крыху выпадковым. Збіралася маладая інтэлігенцыя паасобна і разам у рэдактара «Нівы» тав. Г. Валкавыцкага, дыскутавала над патрэбай пачынання навуковых доследаў у галіне культуры, эканомікі, мінулага Беласточчыны, жыццё якой у навуковай літаратуры асветлена недастаткова. Адны пачалі пісаць невялікія артыкулы ў «Ніву», іншыя падбіраць тэматыку і збіраць матэрыялы. Дайшло да першай сходкі, на якой быў арганізаваны навуковы гурток, выбраны старшыня (мгр. Якубюк), устаноўлен арыентацыйны план працы.

Аднак хутка старшыня пакінула Беласток, а арганізацыйныя недахопы затармазілі працу. У верасні мінулага года, як аб гэтым пісалася ў «Ніве», арганізавана было пры дапамозе інструктара ГП тав. С. Яновіча пасяджэнне гуртка, на якім быў зацверджан план выдавецкай дзейнасці на бягучы і будучы год, а мне было даручана выконваць абавязак старшыні навуковага гуртка.

За прайшоўшыя чатыры месяцы, мы зрабілі нямнога. Але з упэўненасцю можна сказаць, што зборнік навуковых прац у III квартале гэтага года выйдзе ў свет. Ужо выдзеліліся дзве секцыі гуртка — філалагічная і эканамічная, якія гуртуюць разам каля 20 даследчыкаў - энтузіястаў, дзеячоў прадпрыемстваў і г. д. Некаторыя таварышы (мгр. Канапацкі, Юзвюк) ўзяліся абслугоўваць па некалькі народных універсітэтаў у вёсках, а мгр Склубоўскі піша цыкл радыёперадач з гісторыі Беларусі для гайнаўскага радыёвузла.

Ёсць невялікі пачатак. Але найцяжэйшы перыяд, перыяд неарганізаванасці і пошукаў у напрамках працы гуртка, ужо прайшоў. (Працяг на стар. 2)

# ФРЫДЭРЫК ШАПЭН

(ДА 150-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ)

Шапэн авалодаў людскімі сэрцамі амаль ад сямігадовага ўзросту, калі апублікаваў свой першы твор і выступіў з першым публічным канцэртам. Геніяльны аднагодак Шапэна, нямецкі кампазітар Робэрт Шуман, сказаў па прычыне аднаго з самых ранніх твораў Шапэна: «Капялюшы далоў, панове, перад вамі геній!»

Сярод паклоннікаў шапэнаўскага генія былі такія выдатныя яго сучаснікі як Генрых Гайнэ, Онорэ дэ Бальзак, Адам Міцкевіч, Жорж Санд, якія, дарэчы, былі блізкімі сябрамі кампазітара.

Думаем, што не без цікавасці будзе ў 150-ую гадавіну з дня нараджэння Шапэна звярнуцца да яго сучаснікаў і сяброў, каб дапамаглі расказаць нашым чытачам аб адной з самых яркіх адзінак чалавецтва.

Шапэн пісаў у часы, калі польскі народ у вострай барацьбе змагаўся за сваю нацыянальную незалежнасць. Гарачая любоў да сваёй краіны і народу былі магутнай сілай, якая натхняла Шапэна на творчыя подзвігі.

»Калі б магутны манарх Поўначы (рускі цар. — Р. Л.) ведаў, які небяспечны вораг пагражае яму ў шапэнаўскіх творах, у простых мелодыях яго мазурак, ён забараніў бы гэтую музыку. Творы Шапэна — гэта пушкі, схаваныя ў кветках», — сказаў Шуман.

Перад самым лістападавым паўстаннем Шапэн выехаў за граніцу.

Неўзабаве ўспыхнула паўстанне. Шапэн балюча перажывае падзеі, якія адбываюцца ў Польшчы.

«Дарма Мальфацці (вядомы ў Вене лекар, любіцель музыкі, сябар Бетховена — Р. Л.) намагаецца мяне пераканаць, што ўсякі артыст касмапаліт... як артыст — я яшчэ ў калысцы, а як паляк — я ўжо пачаў трэці дзесятак...» — пісаў Шапэн свайму настаўніку Язэпу Эльснеру.

На першым парыжскім канцэрце Шапэна прысутнічаў Ферэнц Ліст, выдатны венгерскі кампазітар і піяніст. Яго цалкам захапіла музыка Шапэна, і ён потым аб гэтым канцэрце пісаў: «Гарачыя апладысменты, якімі яго тады ўзнагародзілі, здаліся мне недастатковай данінай прызнання гэтаму самабытнаму таленту, які прынёс нам столькі цудоўных адкрыццяў, а мастацтва павёў па шляхам, дагэтуль невядомым».

Ліст гаварыў таксама, што музыка і ігра Шапэна выклікалі пачуццё «захаплення, трапятання, нясмеласці, якое апаноўвае сэрца паблізу незвычайных істот, паблізу тых, каго не можам разгадаць, зразумець, ахапіць...»

Надзвычай паэтычна пісаў аб Шапэне гордасць нямецкай паэзіі Генрых Гайнэ: «Прырода... дала яму далікатную, стройную, крыху хваравітую фігуру, высокароднейшае сэрца і геній. Так, Шапэна трэба назваць геніем у поўным сэнсе гэтага слова; ён не толькі віртуоз, ён і паэт; ён можа рабіць для нас нагляднай паэзію, якая жыве ў яго душы; ён кампазітар, і нішто не можа зраўняцца з той асалодай, якую ён дае нам, калі сядае за раяль і імправізуе... тут жа відаць, што ён нарадзіўся тамсама, дзе Моцарт, Рафаэль, Гётэ: сапраўдная бацькаўшчына яго — фантастычнае царства паэзіі. Калі ён сядзіць за раялем і імправізуе, у мяне на душы становіцца так, быццам да мяне прыйшоў зямляк з дарагой радзімы і расказвае мне аб цікавейшых рэчах, якія здарыліся там у час маёй адсутнасці... Часам мне хочацца перабіць яго пытаннямі: а як маецца цудоўная русалка, якая ўмела так какетліва накідваць сярэбранае пакрывала на свае зялёныя кучары? Ці ўсе яшчэ ружы ў нас так палымяна гордыя? Ці ўсё яшчэ нашы дрэвы так прыгожа спяваюць пры месячным святле...?»

Высокую ацэнку Шапэну дае славуты нямецкі кампазітар Фелікс Мэндэльсон у адным з лістаў да сваей маці, дзе параўноўвае Шапэна з Паганіні і называе яго «першым з усіх піяністаў».

Вядомая французская пісьменніца, Жорж Санд, з якою Шапэна злучала вялікая любоў, так піша аб прэлюдыях Шапэна, якія ён напісаў у час супольнай іх пабыўкі на востраве Маёрка: «Шматлікія з іх выклікаюць ва ўяўленні... гукі пахавальных песнапенняў... іншыя — меланхалічныя і пяшчотна свежыя... А трэція — поўны сумнай тугі, і, цешачы вуха, напаўняюць ваша сэрца роспаччу...»

Шапэн любіў іграць у невялікім коле сяброў. Гэтыя музыкальныя вечары апісаў адзін з сучасных яму музычных дзеячоў Эрнэст Легуве: «Сеўшы за раяль, Шапэн зазвычай іграў да зморанасці. Ён адчуваў і мы адчувалі, што нейкая частка яго жыцця адыходзіла разам з гукамі ён не хацеў затрымацца і ў нас не было сіл яго затрымаць. Хваляванне, якое спальвала яго, ахапляла і ўсіх нас!

Аднак быў адзін надзейны сродак адарваць яго ад раяля — гэта папрасіць яго выканаць пахавальны марш, які ён напісаў пасля няшчасцяў Польшчы. Ніколі ён не адмаўляўся яго выканаць; але, калі толькі закончыў апошні такт, браў свой капялюш і выходзіў».

З асаблівым натхненнем іграў Шапэн на адзіноце са сваімі сябрамі — палякамі. Яны яму напаміналі далёкую радзіму.

Каб перадаць сілу гэтай ігры, прывядзем толькі адзін урывак з пісьма Шапэна да Дэльфіны Патоцкай: «Зноў бачыў Міцкевіча... ведаючы, чаго ён прыходзіць, тут жа саджуся іграць... Апошні раз вельмі многа іграў яму, баяўся абарочвацца, але чуў, што ён плача. А потым, калі ён адыходзіў, я сам дапамагаў яму апрануцца, не хацеў, каб лакей бачыў яго заплаканым. Міцкевіч чула абняў маю галаву, моцна пацалаваў у лоб і прагаварыў першы раз за вечар словы: «Дзякую табе, перанёс мяне...» Не дакончыў, слёзы зноў перахапілі яму горла і так, перамагаючы плач, ён выйшаў...»

Гэты год аб'яўлен у нашай краіне годам Шапэна. З новай сілай гучыць музыка вялікага патрыёта, які сваім геніем на векі праславіў радзіму. І радзіма не застаецца ў даўгу.

Падрыхтаваў **Рыгор Лясун**

# З УСПАМІНАЎ АБ КОЛАСЕ

(Працяг са стар. 2)

Колас знаходзіў у нас уважлівых слухачоў сваіх вершаў, якія чытаў нам на сустрэчы і якімі мы ўсе захапляліся; мы глядзелі на Коласа як на ахвяру праследванняў.

Я меў многа ранніх вершаў Коласа, здымкаў, якія рабіў сам, але ўсе яны загінулі ў час апошняй вайны.

Гады 1905—1908 былі гадамі бурных падзей. Падчас нашых сустрэч мы абмяркоўвалі гэтыя падзеі і былі поўныя веры ў перамогу рэвалюцыі, пасля якой мы зоймем сваё месца ў жыцці. Абмяркоўвалі мы і справы Беларусі і беларускай мовы. Колас заўсёды даказваў нам, што Беларусь і беларуская мова гэта не мыльны пузыр, а жыццёвая з'ява. Дарэчы адзначыць, што ў тую пару бытавалі думкі, што беларуская мова і Беларусь гэта твор наскрозь штучны. Колас заўсёды выступаў супраць гэтых сцвярджэнняў.

Апрача дыспутаў на актуальныя тэмы мы ўсёй чацвёркай, гэта значыць Колас, Гарбацэвіч, Анішчук і я, адпраўляліся на Замкавую гару ў Вільні, якая была любімым месцам нашага адпачынку. Тут Колас чытаў нам свае вершы. Асабліва запомніўся мне верш: «У школку».

«Ярка на камінку
Смольны корч пылае.
Бацька на калодцы
Лапці выплятае.
Латае халацік
На ўслоне матка:
Ў школку заўтра пойдзе
Іх сынок Ігнатка!...»

Гэты верш нам асабліва спадабаўся. Ён кранаў нас сваім багаццем, меладычнасцю і прыгажосцю беларускай мовы. Верш друкаваўся ўпершыню ў 1910 г. Гэта быў першы варыянт.



Канстанцін Саўчук з унучкай.

Тут, на Замкавай гары, мы спявалі, танцавалі. Асабліва любіў танцаваць Колас.

Колас палюбіў нас не менш, чым мы яго. Ён пачаў нас называць агаркамі. Гэта гаварыла аб яго пашане да нас. Агаркамі ён называў настаўнікаў, якіх царскія ўлады выганялі з працы за палітычную дзейнасць. Пасля расшырыў гэтую назву і на нас. Нават напісаў нам у 1906 г. спецыяльны гімн. Першыя радкі дэкламаваліся:

«Адслужым малебен,
Ці цар нам патрэбен?!
Збірайцеся ў купу, агаркі

Затым падхапляў хор:

Алілуя, алілуя, слава табе Божа,
А патрэбен ён братцы,
Як прус у аладцы,
Як вёскі без вуліц,
Як жонкі без курыц,
Як скула на с . . . . .
Алілуя, алілуя, слава табе Божа.

Верш атрымаў нават распаўсюджанне. Ён праз знаёмых трапіў аж на Волгу, адкуль мы атрымалі вельмі добрыя водгукі. З вершаў, якія чытаў нам Колас, памятаю яшчэ і такі:

Думал я, студентом буду,
Патент учёного добуду.
Якуб шёл в гору, господа.
Мне светила лампа-чудо
Імел газеты і журнал,
Тепер лучина светит худо,
Давно газет я не читал.

Так шутліва гаварыў аб сабе Якуб Колас.

Цераз Коласа мы дапамагалі і «Нашай Ніве». Мы дапамагалі складаць і вязаць аркушы газет.

Нашае сяброўства з Коласам у Вільні працягвалася да 1908 г. У 1908 г. я закончыў інстытут і пакінуў Вільню.

З Коласам давялося мне сустрэцца яшчэ раз у 1911 г., калі Колас адбываў пакаранне ў Мінскай крэпасці. Едучы ў Маскву, я наведаў яго. Колас трымаўся бадзёра, быў поўны веры ў будучыню.

Больш сустрэцца з Коласам мне не давялося. Якуб Колас застаўся ў маёй памяці, як бадзёры вясёлы, здольны і ўважлівы юнак.

Так закончыў сваё апавяданне Канстанцін Саўчук.

Колас да апошніх дзён жыцця захаваў найлепшыя ўспаміны з часоў свайго прабывання ў Вільні.

Будучы ўжо хворым, у сваім лісце ад 13 мая 1949 г. да Канстанціна Саўчука Колас пісаў:

«Пасля ўсіх хвароб сілы мае моцна падарваліся. Няма ўжо таго Якуба, які танцаваў калісьці на Замкавай гары ў Вільні».

**З успамінаў Канстанціна Саўчука**
**апрацаваў П. ЧЭРНЯКЕВІЧ**

## Новае ў адміністрацыйным падзеле Беларускай ССР

20 студзеня г. г. Прэзідыум Вярхоўнага савета БССР выдаў указ «Аб скасаванні Маладзечанскай вобласці».

Ва ўказе чытаем: «Скасаваць Маладзечанскую вобласць, перадаўшы раёны: Браслаўскі, Відзаўскі, Глыбоцкі, Докшыцкі, Дунілавіцкі, Міёрскі, Плісскі, Пастаўскі і Шаркаўшчынскі — у склад Віцебскай вобласці; Астравецкі, Ашмянскі, Смаргонскі і Юрацішкаўскі — у склад Гродзенскай вобласці; Вілейскі, Валожынскі (за выключэннем Багданаўскага сельскага Савета), Івянецкі, Крывіцкі, Маладзечанскі, Мядзельскі, Радашковіцкі і гарады Маладзечна і Вілейка — у склад Мінскай вобласці. Перадаць Багданаўскі сельскі Савет са складу Валожынскага раёна ў склад Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці».

Побач змяшчаем карту БССР з новым адміністрацыйным падзелам.



# СПУЛДЗЕЛЬЦЫ Ў ЗУБРАХ ПАДЗЯЛІЛІ ДАХОД

27 студзеня г. г. члены спулдзельні прадукцыйнай у Зубрах, Беластоцкага павета, зрабілі разлік калектыўнай працы за перыяд мінулага, 1959 года. На агульны сход спулдзельцаў прыехалі прадстаўнікі павятовых улад — сакратар КП ПАРП Габрыель Фёдараў, намеснік старшыні прэзідыума ПРН Яфрэм Алексін і госць са спулдзельні ў Дарожках Мікола Трафімчук.

Са справаздачы, якую зрабіў на сходзе старшыня спулдзельні грам. Цыоньчык, вынікае, што за мінулы год прадукцыйная спулдзельня ў Зубрах значна ўмацавалася як арганізацыйна, так і гаспадарча.

Сведчыць аб гэтым хаця б рост ураджаю ў параўнанні з 1958 годам.

У 1958 годзе атрымалі спулдзельцы ў сярэднім з аднаго гектара: чатырох асноўных збожжавых культур — па 9,96 цэнтнераў, бульбы — па 105 цэнтнераў : цукровых буракоў — па 158 цэнтнераў. А ў 1959 годзе атрымана па 13,65 цэнтнераў чатырох асноўных збожжавых культур, па 153 цэнтнеры бульбы і па 228 цэнтнераў цукровых буракоў. Варта дадаць, што агульная вартасць прыросту ўраджаю (у параўнанні з 1958 г.) складае 100 тысяч злотых. На падставе гэтых канкрэтных лікаў відаць, што калектыў прадукцыйнай спулдзельні ў Зубрах у мінулым годзе працаваў нядрэнна. Ну і вынікі відавочныя.

Калі яшчэ ўлічыць, што спулдзельня за 1959 год выканала поўнасцю дзяржаўныя нарыхтоўкі і выплаціла банку ўсе фінансавыя належнасці, то відаць, што стаіць яна на трывалых асновах.

Павялічыўся таксама і агульны даход спулдзельні. У 1958 годзе з аднаго гектара угоддзяў даход складаў 836 злотых. А ў 1959 годзе ён дасягнуў ужо сумы 1000 злотых. Раўназначна з ростам агульнага даходу павялічыўся даход і паасобных членаў спулдзельні. У 1958 годзе на адну сялянскую сям'ю з падзеленага даходу выпала ў сярэднім па 7,625 злотых. А ў 1959 годзе — 10.480 злотых. На адзін працадзень выпала ў спулдзельні па 4,75 кілаграмаў збожжа, 3,8 кілаграмаў сена і 6 кілаграмаў саломы. Сям'я Івана Смолея, якая выпрацавала 960 працадзён, атрымала з падзелу, між іншым, 45,6 цэнтнераў збожжа, 36,4 цэнтнераў сена і 57,6 цэнтнераў саломы. Калі да гэтага яшчэ дадаць даход, атрыманы з прысядзібнага ўчастка, дык стане ясна, што нават багатаму селяніну, гаспадаруючаму індывідуальна, цяжка дасягнуць такіх вынікаў.

На сходзе спулдзельцы Зуброў вельмі ўважліва слухалі выступленне старшыні спулдзельні з Дарожак, перадавой спулдзельні на Беласточчыне. Таварыш Трафімчук ахвотна расказваў аб арганізацыі існуючай у іх спулдзельні, аб метадах іх працы.

У дыскусіі, якая завязалася пасля яго выступлення, зуброўскія спулдзельцы падкрэслівалі, што і ў іх ёсць магчымасці атрымаць значна лепшыя вынікі. Коштам ліквідацыі надмернай колькасці коней, спулдзельцы з Зуброў пастанавілі павялічыць гадоўлю спулдзельчых кароў і свіней.

Калі гаварыць аб павышэнні ўраджаяў і ўмацаванні спулдзельні, дык не малая заслуга ў гэтым агранома Браніслава Леваця. Спулдзельцы з вялікай пашанай і ўдзячнасцю выказваліся аб яго працы. Таму, мабыць, не выпадкова выбралі яны на гэтым сходзе агранома Леваця кіраўніком сваёй спулдзельні. З мэтай далейшага ўмацавання спулдзельні агульны сход абавязаў новавыбранае праўленне апрацаваць статут спулдзельні і пастаянна кантраліраваць яго рэалізацыю.

**У заключэнні сходу зуброўскія спулдзельцы арганізавалі супольную вячэру, на якой пры музыцы і кілішку весела правялі час.**

**БРАНІСЛАЎ ЛЕЙВОДА**
**Старшы інспектар па справам прадукцыйных спулдзельняў Аддзела сельскай і лясной гаспадаркі Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку**

**НА ВЯСКОВАЙ СЦЭНЕ**

## ЭНТУЗІЯЗМ АХАПІЎ СУХІНІЧЫ

Нашай моладзі надаела быць убаку ад справы. Зіма. Доўгія вечары. Можна было б іх выкарыстаць. Чаму б не падумаць аб пастаноўцы якой - небудзь беларускай п'есы. Менавіта над гэтым і задумваўся Эдуард Рудніцкі. У выбары п'есы яму дапамагла настаўніца беларускай мовы ў мясцовай школе Зоя Цілюлька. Не раз яна дапамагала акцёрам сваёй парадай. А затым узялася сама за кіраванне. Цяжка прыходзілася спачатку і настаўніцы і артыстам, бо некаторыя з артыстаў і сама настаўніца былі заняты на вечаровых курсах пашырэння ведаў.

Усе гэтыя цяжкасці перамагла імклівасць да культурнага жыцця.

І вось прыйшоў дзень, калі трэба было паказаць людзям, чаму мы навучыліся і што ўмеем. Гэтую п'есу, «Прымакі» Я. Купалы, прыйшлося ставіць два разы, бо зала не магла змясціць жадаючых. Многа людзей прыйшло з суседніх вёсак. Разам, каля 200 чалавек. На працягу ўсёй пастаноўкі зала не сціхала ад смеху, бо трапныя гумарыстычныя выразы беларускай мовы, якія сустракаліся ў п'есе, не адсутнічаюць і ў Сухінічах.

Ролю Максіма выконваў Эдуард Рудніцкі, ігра якога вельмі спадабалася гледачам. Наогул, людзі пакідалі залу вельмі задаволеныя. Ды чаму ж тут не радавацца, калі чуеш і бачыш цікавыя рэчы, ды ў дадатак яшчэ на роднай мове. Не грэшна было б паказацца нашым артыстам і ў адной з суседніх вёсак.

**Уладзімір Цілюлька**

## ВЯЛІКАЕ „БРАВА" АТРЫМАЛІ

...удзельнікі гуртка мастацкай самадзейнасці з вёскі Махнатае (Гайнаўскі павет), якія выступілі са сваёю багатаю праграмай 8-га студзеня ў мясцовай школе. На выступленні махнатаўсхіх артыстаў прыбыло многа людзей таксама са Старога Корніна, Дубіч Асочных і іншых вёсак. Ледзь школа ўсіх змясціла. Было што паглядзець, паслухаць і было ад чаго павесяліцца. Найбольш апладысментаў атрымалі вясковыя артысты ў час пастаноўкі вясёлай гумарыстычнай беларускай п'ескі «Боты», перадусім наступныя яе выканаўцы: Басіль Баўтручук, Марыя Пасынюк, Аляксей Кірылюк і Вячэслаў Красько (кіраўнік мастацкага гуртка). З вялікім зацікаўленнем глядзелі прысутныя «штучкі» на польскай мове «Вясёлы рэманент», «Салдат на пасту і паненка» і «Лекарская камісія». Дуэт у складзе Веры Назарук і Люсі Аляксеюк прыгожа праспявалі некалькі беларускіх песень.

Мастацкі гуртох з Махнатаг. ў святочны час наведае таксама вёскі Чыжы і Арэшкава.

М. К.

## У ТЫНЯВІЧАХ ВЯЛІКІХ

Нядаўна члены ЗМВ вёскі Тынявічы Вялікія паставілі на вясковай сцэне тры беларускія п'есы: «На ўскраіне сяла», «Трэба мамы запытацца» і «Каханне з запасам». З гэтымі пастаноўкамі тынявіцкая моладзь ездзіла таксама ў Камень. Варта падкрэсліць, што ў сваіх выступленнях тынявіцкія самадзейнікі апрача п'ес выкарыстоўваюць народны гумар і жарты.

Цяпер наша моладзь рыхтуе п'есу пад загалоўкам «Сын палка», з якой наведае таксама іншыя вёскі.

**Мікалай Свентахоўскі**
Тынявічы Вялікія.

тэрмін. І невядома, што цяпер у галаве Губарта. Возьме, ды другога кіне, а той прызямліцца больш паспяхова.

Я выйшаў у парк, на бязлюдную алею, і сеў на лаўку пад вялікай ліпай.

Не памятаю, ці праходзіў хто-небудзь міма, ці існавалі якія-небудзь іншыя гукі, апрача шолаху лісцяў над галавою. Думка працавала напружана, быстра, забягала наперад, выпярэджвала падзеі, і калі яна атрымала канкрэтную форму, я ўспомніў, што пара ісці і што, напэўна, Рашотаў і Фірсанаў чакаюць мяне.

— Ну як? — спытаў палкоўнік, калі я ўвайшоў у кабінет Фірсанава. — Надумалі што - небудзь?

— Надумаў, таварыш палкоўнік.

— Сядайце, расказвайце.

Я выказаў свае меркаванні. Я іду да Губарта замест хворага Брызгалава. Губарт, відавочна, доўга не будзе затрымліваць мяне. Трэба меркаваць, што ён пастараецца перакінуць мяне чым хутчэй назад для хутчэйшага ўстанаўлення сувязі са сваёй агентурай у нашым тылу. Цяжка прадбачыць, да каго ён пашле мяне. Мо' да Саўрасава, ад якога я прыйшоў да яго, мо' да якой іншай, невядомай нам, асобы. Усё гэта выявіцца ўжо там, на месцы. Гэта адзін бок справы. Другі заключаецца ў тым, што ў мяне ў час знаходжання ў Губарта могуць узнікнуць пытанні, па якім мне трэба будзе параіцца з кіраўніцтвам. Сустрэнуцца людзі, цікавыя для нас, выявяцца непрадбачаныя магчымасці для далейшага размотвання гэтага варожага клубка, стануць вядомымі планы ворага, якія трэба хутка прадухіліць. Урэшце, трэба і пасля майго адыходу не спускаць з вока Губарта з яго «гаспадарствам».



— Так, зразумела... Што вы канкрэтна прапануеце? — спытаў Рашотаў.

— Я прапаную перакінуць у раён знаходжання Губарта аднаго таварыша з радыстам. Яны павінны дзейнічаць па маім указанні. Праз іх я інфармую вас і атрымліваю вашыя указанні. Я вяртаюся, група застаецца... Што будзе далей, прадбачыць цяжка.

— Мне гэта падабаецца. Я згодзен. Паспрабуем, — сказаў палкоўнік. — Каго можна паслаць?

— Крываручанку...

— А што ён на гэта скажа? — спытаў Фірсанаў.

— Па-мойму, згодзіцца, — адказаў я.

— Думаеце?

— Упэўнены!

— Вы з ім папярэдне гутарылі? — спытаў Рашотаў.

— Не.

— Ён калі - небудзь скакаў з парашутам?

— Не. Але гэта нескладаная справа. Да першага прыжка я таксама не скакаў.

Фірсанаў рассмяяўся.

— Правільна, уніз скакаць — гэта не ўгору падымацца, — усміхнуўся Рашотаў і, звяртаючыся да мяне, дадаў, — Я павінен выявіць вам пэўныя дэталі адносна групы, якая карысталася паролем «Прывітанне ад Віталія Лазаравіча». Тады вам шмат будзе ясным і паможа ў працы на тым баку.



### РАСКАЗ ПАЛКОЎНІКА

— Аднойчы ў саракавым годзе, — пачаў ён, — у горадзе, дзе я працаваў, вартаўнік, які вартаваў вайсковыя склады, напавал застрэліў прабраўшагася ў забароненую зону незнаёмага. Пад курткай забітага была міна, а ў кішэні — палавінка вось гэтай самай фатаграфіі. Хто быў забіты, заставалася загадкай: ніякіх дакументаў пры ім не было.

Праз дзве нядзелі адзін грамадзянін паведаміў нас, што год назад у адным з партовых гарадоў яму давялося пазнаёміцца з чужаземцам. Чужаземец быў трэнерам футбольнай каманды. Запомніўся ён яму таму, што ад сярэдзіны ілба да левага бока меў шрам. І вось тры дні таму сустрэў ён гэтага чужаземца ў кампаніі супрацоўніка вайсковага завода, нейкага Робуша. Гэта выклікала ў яго падазронасць. І ён меў рацыю.

Робуша давялося арыштаваць. Падчас вобыску у яго знайшлі закадзіраванае пісьмо. У ім была гутарка аб рэчах, якія складалі вялікую дзяржаўную таямніцу.

Робуш прызнаўся, што ён агент нямецкай разведкі. У першую сусветную вайну быў у нямецкім палоне і там завербаваў яго да шпіёнскай дзейнасці нямецкі афіцэр у чыне капітана — Габіш. Практычная работа шпіёна пачалася ў трыццаць дзевятым годзе, калі Робуш жыў на Каўказе. Аднойчы яго на вуліцы затрымаў невядомы яму малады чалавек і сказаў некалькі слоў. Робуш дасканала помніў гэту фразу. Гэта быў пароль, які ў свой час даў яму капітан Габіш. Невядомы паказаў яму вось

